# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 22/28 КАЛЯДЫ 2000 2/50/60


## КАЛЯДНЯЕ ВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ



ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ, СЛАЎЦЕ!

Ізь Сьвятам Хрыстовага Нараджэньня вітаю Вас Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да свае роднае Сьвятое Царквы імкняцеся, а доступу ня маеце.

З пастырскай любасьцяй да Вас упрашаю нашага Збаўца Ісуса Хрыста ды жадаю Вам, каб, як тая Зорка, што ў Сьвятую Ноч Збаўцовага Нараджэньня зазьзяла над Бэтлеэмам, гэтак сёньня й у Вашых сэрцах засьвятлела радасьць з Божае рупнасьці праз нас ды ўдзячнасьць за Ягоныя ласкі.



Ды, каб гэтую радасьць і ўдзячнасьць Вы выявілі ў малітвах у Божых сьвятынях і ўдома, а таксама больш у духовым сьвяткаваньні гэтага Вялікага Дня, як у багатых і хмяльных застольлях.

Ды яшчэ жадаю, каб наўзор мудрацоў, што за Зоркай прыйшоўшы ў Бэтлеэм прынясьлі Дзіцятку-Богу дары, Вы не шкадавалі сілаў і дабра на працу на Божай Ніве, ды былі шчодрыя на добрыя ўчынкі людзям, роднаму Краю й сваёй Царкве.

Любыя праз Хрыста Браты й Сёстры!

Сёлета ў Сьвятую Ноч Хрыстовага Нараджэньня пачнецца трэйцяе тысячагодзьдзе ад гэтае найслаўнейшае й найважнейшае ў існаваньні чалавецтва на зямлі падзеі.

Варта таму, як і на ўсялякія іншыя ўгодкі, на гэты 2-х тысячны юбілей асабліва, глянуць у мінулае й ацаніць тое, што было ў ім добрае й прызнацца да таго, што было благое, ды з гэтага дазнаньня ўзяць навуку на будучыню.

Дзьве тысячы год назад на зямлю зыйшоў Сам Божы Сын ды весьціў Навуку любасьці да Бога й да бліжняга, ўзаемнае дапамогі й выбачэньня паміж людзьмі, а таксама патрэбы добрых учынкаў на заслугу навечнага збаўленьня душы.

Ягоная Навука, аднак, не настаўленьне на бязьдзейную Веру ў Бога, а заклік ды наказ да змаганьня супраць зла ў сабе ды наваколо ўсіх нас.

Гэтую Наймудрэйшую Навуку ў Ейнай чысьціні прыйнялі нязьлічныя мноствы людзей, за Яе цярпелі й паміралі мучанікі, Ёю жылі пакаленьні.

Ёю натхняліся стваральнікі лепшых вартасьцяў людзкое думкі, мастацтваў і сацыяльнага прагрэсу.

Яе, нажаль, нахабна прысабечвалі й абярталі ў прыладу духовага ды фізычнага панаваньня над паасобнымі людзьмі й цэлымі народамі бязьверныя, а жадныя ўлады ранейшыя князі й цары, ды пазьнейшыя тыраны й дыктатары.

Робяць яны гэта й цяпер, ды цяпер, як і раней, увесь час памагаюць ім у гэтым зманныя весьцьнікі Хрыстовае Навукі, хвальшывыя Божыя слугі.

Ад гэтага хвальшу й гвалту вякамі цярпеў і яшчэ церпіць наш Народ.

Церпіць, бо навучаны верыць, што з Божае Волі ён асуджаны быць пад чужою ўладаю, саромецца й выракацца ягонае Богам дадзенае мовы, аддаваць плод ягонае працы й багацьце ягонага Краю чужынцам, ды жыць у беднасьці й зьдзеку.

Адкіньма-ж гэтую ману й згадайма, што ўсе людзі й народы аднолькава любыя Богу Ягоныя дзеці, ды, што й дзеля нашага збаўленьня ў людзкім целе зыйшоў зь неба на зямлю Божы Сын.

Калі-ж мы годныя роўна зь іншымі на Божую любасьць, на зыйсьцё зь неба на зямлю й сьмерць за нас на Крыжы Божага Сына, дык шануйма гэтую годнасьць у сабе, не пастпаючыся перад злом і не патураючы яму, а служачы добрымі ўчынкамі іншым людзям, паважаючы наш Беларускі Народ ды памнажаючы Богам дадзенае багацьце нашае мовы, культуры й роднага Краю.

Ды ня прыймайма за праўду словы хвальшывых Божых слугаў, а ўсе разам узнаўляйма на Бацькаўшчыне нашую родную Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, што весьціць чыстую Хрыстовую Навуку - шлях да шчасьця на зямлі й навечнага збаўленьня на небе.

Няхай-жа Народжаны ў Бэтлеэме наш Збавец Ісус Хрыстос дасьць усім нам у трэйцім тысячагодзьдзі быць годнымі Ягонае Ласкі.

+ *Мітрапаліт Ізяслаў*

Першагерарх

Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

# НЯЗЫХОДНАЯ ЙЗ ШЛЯХУ

## ДА 50-х УГОДКАЎ ЗАСНАВАНЬНЯ ПАРАХВІІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ

Ідэі й узьнікłыя зь іх рухі, што зьмянялі долі народаў, заўсёды выводзіліся йзь вядных колаў гэтых народаў ды асяродкаў, дзе гэтыя колы знаходзіліся.



Богам натхнёная духова вядным колам нашага Народу ідэя аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы таксама мае галоўны асяродак, дзе яна захоўваецца ды дасьпявае да ўжыцьцяўленьня.

Гэты асяродак - Парахвія Катэдральнага Сабору Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Имя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й ягоная сьвятыня.

Не адмаўляючы значаньня іншых парахвіяў ува ўзьдзеяньні БАПЦ на духовую аснову беларускага нацыянальнага руху ў другой палове XX ст. трэба сказаць, што цэнтрам адкуль гэтае ўзьдзеяньне йшло галоўным чынам была якраз гэтая Парахвія.

Сталася так, відаць, з Божае волі, бо як-жа інакш растлумачыць тое, што якраз тут знайшоўся былы ўдзельнік збройнага змаганьня за незалежнасьць Бацькаўшчыны, із шматгадовым пастырскім дазнаньнем ды непахісным аўтакефаліцкім перакананьнем сьвятар - айцец Хведар Данілюк.

Разам з гэтым, няйнакш як таксама з Божае волі, тут апынулася кола інтэлігенцыі, што спрычынілася да ўзнаўленьня дзейнасьці БАПЦ за межамі Беларусі ды немалая частка вернікаў найбольшае парахвіі БАПЦ, што раней была ў беларускім уцякацкім лягеры ў Розэнгайме, у Нямеччыне.

Сустрэча пастыра зь вернікамі, хоць і ў цяжкіх умовах пачатку жыцьця на новым асельлі, дала добры плод і ўвосені 1950-га году (дата, нажаль, нідзе не запісаная) ў найнятай краме на Эшфорд стрыт у Брукліне, што была названая "Беларускай Хаткай", пачаліся штонядзельныя адправы, а ўсьлед была створаная Парахвіяльная Рада ў складзе праф. Міколы Дарашэвіча - старшыні, др-а Аляксандра Орсы - скарбніка, інж. Мікалая Гарошка, Міхася Тулейка ды Яна Ніхаёнка - сяброў.

Кіраўніцтва добрым хорам узяў на сябе праф. Мікола Куліковіч.

З увагі на згуртаваныя ў ёй сілы й чаканы прыезд Уладыкі Васіля новастворанaя парахвія ад ейнага заснаваньня была настаўленая на вядную ролю ў жыцьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на эміграцыі ды прыгатаваньні да Ейнага ўзнаўленьня на Бацькаўшчыне, хоць магчымасьці на гэта былі сьціплыя.

Ня было, перадусім, царкоўнага будынку, ні грошай, каб яго купіць, ці пачаць парахвіяльную, або шырэйшую царкоўную дзейнасьць.

Пасьля прыезду Уладыкі Васіля, із згоды архіяпіскапа Багдана з Канстантынопальскае юрысдыкцыі, ў 1951-м годзе адправы былі перанесеныя ў Сьв. Траецкую Царкву ў Мангатане, але першы крок дзейнасьці агульнанацаркоўнага абсягу, апрача ўладыкавага ліставаньня з духавенствам і вернікамі па ўсім сьвеце, далося зрабіць адно на Вялікдзень 1955-га году, калі пад уладыкавай рэдакцыяй зьявіўся царкоўнаграмадзкі часапіс "Голас Царквы".

Нельга ня ўспомніць, што ў гэтым часе царкоўным і сьвецкім хорам вельмі ўдала кіравала Галіна Ганчарэнка, а пасьля яе Андрэй Каптуровіч.

Варта таксама адзначыць, што ў 1954-м годзе была зробленая першая інкарпарацыя, або рэгістрацыя парахвіі ў амэрыканскіх урадавых установах паводле закону Украінскае Праваслаўнае Царквы.

Падсуседзтва ў Сьв. Траецкай Царкве, трывала, аднак, толькі да лета 1956-га году ды скончылася адразу пасьля раптоўнае сьмерці кіраўніка гасьціннае парахвіі й фактычнага собсьніка будынку.

У выніку парахвія ўзноў апынулася бязь мейсца на адправы й на гэтую патрэбу давялося наймаць выпадковыя памешканьні.

Урэшце ўвосені 1957-га году, пасьля ўзмоцненага збору грошай сярод парахвіянаў і грамадзтва, пашчасьціла знайсьці ў Брукліне царкоўны будынак, што адпавядаў патрэбам парахвіі ды грамадзкага жыцьця, а цана на яго была даступная на магчымасьці парахвіі.

Будынак, праўда, быў у жахлівым стане, але зь невялікімі выдаткамі на наймо будаўных адумыслоўцаў, а найбольш дзякуючы дабраахвотнай працы парахвіянаў і непарахвіянаў, удалося яго аднавіць ды

(Працяг на 6-й бач.)

# МІТРАПАЛІТ ІЗЯСЛАЎ БРУЦКІ

## ДА 75-Х УГОДКАЎ НАРАДЖЭНЬНЯ Й 20-Х ЯПІСКАПСКАГА ЎСЬВЯЧЭНЬНЯ

Гісторыю народаў стварае дзяржаўная мудрасьць, палітычная спраўнасьць, а часам і вычуцьцё пары на наважныя дзеі ды гераізм іхных сьвецкіх павадыроў.

Гісторыю краёвых праваслаўных цэркваў, што цесна павязаная з нацыянальнымі гісторыямі, твораць людзі, якія, апрача якасьцяў палітычных павадыроў, маюць духовую сілу адрачыся ад сьвецкага жыцьця ды нязломна цярпець нястачы, а часам яшчэ й паніжэньні ды абразы за іхную верную службу Богу, Царкве й свайму народу.



Да гэткіх людзей, якімі былі нашыя архіпастыры й пастыры, што будавалі й баранілі аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы, ды за гэта цярпелі прасьледы нятолькі ад ворагаў, але й ад сваіх неразумных ды падбухтораных ворагамі суродзічаў належыць таксама й Мітрапаліт Ізяслаў Бруцкі.

З увагі на набліжэньне 75-х угодкаў ягонага нараджэньня й 20-х ягонае япіскапскае хіратоніі (усьвячэньня) годна ўсім нам пазнаёміцца йз жыцьцёвым шляхам гэтага ахвярнага й непахіснага ў службе Богу й Беларускаму народу архіпастыра.

Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, у сьвеце Іван Бруцкі, нарадзіўся 22-га студзеня 1926-га году ў сяле Белавуша, цяпер Столінскага раёну, Берасьцейскае вобласьці, а тады пад Польшчай, у сялянскай сям'і Данілы й Марыі Бруцкіх-Стэмпкоўскіх. Іван быў трэйцім сынам у сям'і, а пасьля яго яшчэ прыйшлі на сьвет дзьве сястры й адзін брат, які памёр яшчэ зусім малым.

У бацькоў была прыблізна 25-ці гэктаравая гаспадарка, якую яны ўмела й дбайліва апрацоўвалі, а сам бацька ўзімку яшчэ падзарабляў вывазкай лесу. За ягоную гаспадарнасьць і пісьменнасьць Іванаў бацька карыстаўся ў сяле агульнай павагай, дзеля якое й быў выбраны на солтыса, ды валаснога радніка.

Іван, тымчасам, з 1933-га году пачаў хадзіць у польскую пачаткавую школу, 6-тую клясу якое скончыў увесну 1939-га году. Побач з навукай у польскай школе, пабожныя й актыўныя ў жыцьці мяйсцовае праваслаўнае парахвіі, Іванавыя бацькі вучылі яго й кірылічнае граматы, каб умеў чытаць гадзіны (часы) й памагаць у адправах.

Увосень 1939-га году Заходнюю Беларусь зайняў Савецкі Саюз і для Бруцкіх ранейшае нялёгкае жыцьцё пад польскім займом неўзабаве абярнулася ў трывожнае ды небясьпечнае існаваньне пад савецкай уладай, бо на пачатку лета 1940 г. бацька быў арыштаваны й, пасьля 10-ці месячнага зьняволеньня ў турме, вывязены ў Казахстан, чаго чакала й рэшта сям'і. Не зважаючы на гэтую пагрозу Іван, усё-ж, пайшоў у пераарганізаваную на савецкі лад школу, дзе й вучыўся аж да пачатку нямецка-савецкае вайны ў 1941-м годзе.

Насталая пасьля пачатку гэтае вайны нямецкая акупацыя ня прынясла сям'і Бруцкіх жаданага спакою, бо да цяжкасьці здабываньня хлеба без гаспадара ў хаце, неўзабаве далучылася яшчэ й небясьпека расправы, як із сям'ёю "ворага народу", з боку савецкіх партызанаў. Да таго яшчэ акупацыйны рэжым у Райхскамісарыяце Украіны, да якога тады было далучанае Палесьсе, не схацеў адчыняць школы, а моладзь, што падрастала, стаў раз-за-разам забіраць на работу ў Нямеччыне.

У адзін з гэтых набораў трапіў у канцы травеня 1943-га году й сямнаццацігадовы Іван Бруцкі ды ў выніку апынуўся ў "остарбайтарскім" лягеры ў Фленсбургу, каля мяжы з Даніяй. Папрацаваўшы коратка на фабрыцы, покуль яе не разьбілі амэрыканскія бамбавікі, ён быў узяты на паправу рэйкавых усьцілаў на чыгунцы, дзе й працаваў да капітуляцыі Нямеччыны.

Калі скончылася вайна Іван наважыў ня ехаць дамоў на ўзнава акупаваную саветамі зямлю, а застацца за мяжою й з гэтае прычыны мусеў колькі месяцаў хавацца ад прымусовае рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз.

Як адно вывазы на ўсход прыціхлі й пачалі арганізавацца ўцякацкія асяродкі, а ў іх культурнае й асьветнае жыцьцё, Іван, даведаўшыся, што ў украінскім лягеры ў Гановэры адчыняецца гімназыя, адразу падаўся туды на навуку. У гімназыі быў прыйняты на матуральны курс, які скончыў з атэстатам сьпеласьці навесну 1947-га году.

Імкнучыся да вышэйшае асьветы, а ня маючы матарыяльных магчымасьцяў здабываць яе ў Нямеччыне, Іван улетку 1947-га году выехаў у Канаду, дзе напачатку каля году працаваў на высяку лесу ў правінцыі Антарыё. Адпрацаваўшы тэрмін кантракту, у 1948-м годзе ён пераехаў у Вініпэг у цэнтры Канады, дзе знайшліся людзі з роднага сяла, што выяхалі з Краю яшчэ перад вайною.

Там, сьпярша працаваў на фабрыцы, але жаданьне здабыць вышэйшую асьвету не пакідала яго й таму, падвучыўшыся ангельскае мовы, ён пайшоў на падрыхтоўчы ўнівэрсытэцкі курс і ўжо ўвосені 1949 году пачаў студыі будаўное інжынерыі на Манітобскім унівэрсытэце, зарабляючы на жыцьцё на часовых і летніх работах.

На пачатку 1949-га году Іван, пасьля амаль 9-ці гадовае разлукі, меў радасьць сустрэцца з бацькам, якому пашчасьціла вырвацца з польскай арміяй Андэрса йз Савецкага Саюзу й апынуцца да канца вайны зь сем'ямі вайскоўцаў ажно ў Уганьдзе, што ўва Усходняй Афрыцы, ды ўрэшт на сынавае патрабаваньне пераехаць у Канаду.

У 1954-м годзе Іван Бруцкі завяршыў унівэрсытэцкія студыі здабыцьцём інжынерскае ступені й пачаў працаваць у дарожным адзьдзеле правінцыі Антарыё. У гэтай правінцыі, улучаючы й ейную сталіцу Таронта, зьмяняючы, дзеля лепшага заработку колькі разоў мейсцы працы, ён працаваў ажно да 1962-га году.

Не адныя, аднак, заробкі цікавілі маладога інжынера, больш яшчэ яго цягнула да беларускае нацыянальнае працы, актыўным удзельнікам якое ў грамадзкай арганізацыі й у мяйсцовай Таронцкай парахвіі БАПЦ ён неўзабаве становіцца. Працуючы ў Таронта ў 1957-м годзе ён нават быў старшынём Згуртаваньня Беларусаў Канады.

Улетку 1962-га году Івану ўдалося легальна эміграваць у ЗША й атрымаць працу ў Дэтройце.

І тут, апрача прафэсыянальнага зайнятку, ён шмат часу прысьвячаў беларускім справам, два гады займаючы становішча старшыні адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) ды бяручы ўдзел у дзейнасьці Камітэту Паняволеных Народаў і этнічнае групы рэспубліканскае партыі.

Разьвіцьцё эканомікі штату Каліфорнія, што пачынаючы йз 60-х гадоў прыцягнула туды мільёны амэрыканцаў, заахвоціла й інжынера Бруцкага падацца туды ды знайсьці працу ў Лос Анджэлэс. Там ён узноў адразу ўлучыўся ў беларускае грамадзкае жыцьцё, чатыры гады выконваючы абавязкі старшыні мяйсцовага адзьдзелу БАЗА ды ўзноў займаючыся дзейнасьцяй у Камітэце Паняволеных Народаў і ў рэспубліканскай партыі.

У 1969-м годзе яго сустрэла цяжкое перажываньне, бо давялося назаўсёды разьвітацца з бацькам, які пасьля 29-ці год разлукі больш ня мог стрываць тугі па сям'і й роднай зямлі, ды вярнуўся на Беларусь.

Беларускае грамадзкае жыцьцё ў Каліфорніі, у якім браў актыўны ўдзел Іван Бруцкі, дзеля малое колькасьці аселых там беларусаў, не давала, аднак, магчымасьці стварыць сталы асяродак, дзе гуртавалася-б арганізацыйная ды царкоўная дзейнасьць.

Тымчасам гэткі асяродак існаваў і спорна разьвіваўся ў Кліўлэньдзе, што ў штаце Огаё, дык туды ў канцы 1969-га году Іван Бруцкі й пераехаў. Гэтта ён праз два гады быў старшынём Парахвіяльнае Рады Царквы Жыраўскае Іконы Божае Маці БАПЦ і з гэтае пары пачынаецца ягоная царкоўная дзейнасьць.

Вясною 1971-га году ў ягоным жыцьці здараецца рэдкая радасьць, бо, паехаўшы ў Польшчу, сустракаецца з маці й з братам ды сёстрамі, якіх ня бачыў 28 год, а якім пашанцавала тады атрымаць дазвол на адвед за мяжою.

У гэтым самым годзе ён варочаецца ў Дэтройт, дзе ўжо была заснаваная й набыла свой будынак парахвія БАПЦ і дзе, апрача ранейшых абавязкаў у БАЗА й вонкавай рэпрэзэнтацыі беларускае грамады ўлучыўся таксама і у жыцьцё мяйсцовае парахвіі, ды БАПЦ наагул. Дзейны ягоны ўдзел у парахвіяльным жыцьці ён выяўляў на становішчах старшыні Парахвіяльнае Рады, ейнага скарбніка й сакратара, ды нават дзяка пры адправе Божых Службаў. Быў таксама абраны на сябра Рады БАПЦ і дэлегата на Сабор БАПЦ у 1972-м годзе, што адбыўся ў Гайлэнд Парку.

Актыўны ўдзел у царкоўным жыцьці ўзбудзіў у душы інжынера Бруцкага моцную цягу да вышэйшых духовых вартасьцяў і да службы Богу, ды Бацькаўшчыне ў ролі духаўніка, да чаго ён адразу й пачаў рыхтавацца.

Ягоная гатовасьць прысьвяціць сябе на службу Божай Справе між свайго Народу сустрэла падтрыманьне з боку сьв. пам. Мітрапаліта Андрэя й 29-га красавіка 1979-га году Іван Бруцкі быў усьвячаны на дыякана, а 26-га жнівеня таго-ж году Архіяпіскапам Мікалаям на сьвятара.

Дбайны праз далейшае існаваньне БАПЦ і памятны на ягоны паважны век сьв. пам. Мітрапаліт Андрэй імкнуўся якнайхутчэй павялічыць колькасьць япіскапаў.

Паводле агульнае адукацыі сьвятар Ян Бруцкі на гэтае становішча быў адпаведны, не хапала яму адно фармальнае духоўнае асьветы. Матарыяльна, аднак, дазволіць на гэткую асьвету сьвятар БАПЦ мог толькі ў Украінскай Праваслаўнай Сэмінарыі ў Баўнд Бруку, што ў Нью Джэрсы, калі, пры гэтым, ягоныя мінімальныя патрэбы былі-б забясьпечаныя недалёкай парахвіяй БАПЦ у Гайлэнд Парку, куды Мітрапаліт Андрэй айца Бруцкага й прызначыў.

Да гэтае думкі даходзіла яшчэ й спадзяваньне, што падтрыманы зарганізаваным грамадзтвам беларускі япіскап, знаходзячыся ў цэнтры эміграцыйнае нацыянальнае дзейнасьці, зможа зрабіць на карысьць Беларускае Справы ня менш, як гэта робяць у ЗША япіскапы іншых народаў. Выглядала, што гэткая лёгіка была-б зразумелая й кожнаму беларускаму патрыёту.

Нажаль, лёгіка ў думаньні й дзеяньні беларускае эміграцыі й ейных дзеячаў у асаблівасьці, найчасьцей роўная розуму беларускіх выбаршчыкаў, што галасавалі "за" на Лукашэнкаўскім рэфэрэндуме, ды якіх, зь вялікай сьвятасьцяй на языку, ганіць ці адзін наш краянін за мяжою

З гэтае, вось, нястачы лёгікі, а можа й праз антыправаслаўныя забавязаньні, эліта беларускае эміграцыі, а за ёю й нямала ўверных ёй людзей, замест вітаць выпрабаванага ў патрыятызьме ды ахвярнага служыць Богу кандыдата на япіскапа, паставілася да яго варожа ды ўзяла сабе за мэту, калі ня перашкодзіць яму узыйсьці на высокае царкоўнае становішча, дык зрабіць выкананьне ягоных абавязкаў немагчымым.

За вонкавую прычыну непрыязьні да кандыдатуры а. Бруцкага было выкарыстанае прызначэньне Мітрапалітам Андрэям дасюлешняга кіраўніка парахвіі ў Гайлэнд Парку на гэткае-ж становішча ў Кліўлэньдзе, чаго, як ня дзіўна, нямала-хто ў абедзьвух парахвіях да тае пары дамагаўся.

Пры нягоднай дапамозе, пазбаўленага пазьней за гэтую й іншыя шкоды царкоўнаму адзінству й парадку япіскапскае годнасьці, былога архіяпіскапа Мікалая, варожы намер не дапусьціць да хіратоніі новага япіскапа БАПЦ амаль асягнуў мэту, але займаць мейсца ў юбілейным артыкуле на апісаньне дапушчаных пры гэтым хамстваў ня варта.

Разумеючы варожую натхнёнасьць узьнятых пера-

шкодаў сьв. пам. Мітрапаліт Андрэй ад ягонае мэты не адступіўся й дзякуючы прыязьні, ды дапамозе Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША 22 лютага 1981-га году ў Царкве-Помніку Сьв. Ап. Андрэя Першпакліканага, што ў Баўнд Бруку, Н. Дж., а. архімандрыт Ян Бруцкі Мітрапалітам УПЦ Мсьціславам (пазьнейшым першым Кіяўскім Патрыярхам), архіяпіскапам УПЦ Арэстам ды Мітрапалітам БАПЦ Андрэям быў хіратанізаваны ў япіскапскую годнасьць з манаскім імём Ізяслаў.

Пасьля гэтае радаснае падзеі чакала яго, нажаль, не спакойная й з таго шчодрая на плод праца на царкоўнай ніве, а прыкрае й зморнае змаганьне за кананічнае існаваньне БАПЦ ды нутраную ў ёй законнасьць і парадак.

Не спалохала ды не зманула яно таксама й вернае пабожным мэтам і правілам БАПЦ, а не палітыканскім штукарствам, духавенства, што зь іхнымі вернікамі засталося сьпярша пры Мітрапаліце Андрэю, а пасьля ягонае сьмерці ў травені 1983-га году, пры выбраным у травені 1984-га году на чарговым III-м Саборы БАПЦ у Манчэстары, што ў Англіі, на мітрапалічы пасад архіяпіскапе Ізяславе.

І ён гэты ўскладзены на яго давер, ня гледзячы на няспынны варожы наступ і перашкоды, ды матэрыяльныя цяжкасьці, з чэсьцяй выпраўдаў.

За час ягонае япіскапскае службы й побыту на мітрапалічым пасадзе Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў тры разы наведваў парахвіі БАПЦ у Англіі й гэтулькі-ж разоў парахвіі ў Аўстраліі, а паміж візытамі трымаў і дасюль трымае зь імі сталую лучнасьць.

У 1990-м годзе ён старшынстваваў на скліканым у Брукліне IV-м Саборы БАПЦ, увесь час, дзе магчыма, утрымоўваў і ўтрымоўвае лучнасьць зь іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі, ды няспынна рэпрэзэнтуе й заступаецца за беларускія інтарэсы перад амэрыканскімі ўладамі.

Ад пачатку ягонае службы на мітрапалічым пасадзе й да сёньня ён клапоціцца, каб голас БАПЦ даходзіў да ейных вернікаў у сьвеце й да праваслаўных беларусаў на Бацькаўшчыне друкам і наказным словам.

Горка й крыўдна робіцца, здумваючы, колькі болей гэты добры пастыр мог-бы яшчэ асягнуць, калі-б былі на гэта лепшыя матарыяльныя магчымасьці й, калі-б тыя, што высунуліся на чало беларускае эміграцыі й адраджэнскага руху ў нашым Краі, замест працаваць на шкоду роднай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнаё Царкве, сталі побач зь ім да згоднае й плоднае працы на Божую славу й карысьць нашае Бацькаўшчыны.

Будзь, ці ня будзь гэткае супрацоўніцтва, зь мінулага дазнаньня ведама, што Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з гонарам ягоныя абавязкі, як выконваў, гэтак і будзе выконваць, ды, як зрабіў ужо шмат дабра, гэтак яшчэ больш зробіць на прыбытак Божай Справе й усім нам любай Беларусі.

Дык падзякуйма яму за ягоныя асягненьні ды пажадайма, каб яшчэ праз шмат год жыцьця ў добрым здароўі ды заслужанай пашане ён гэтыя асягненьні памнажаў.

Іс полла эті Дэспота, Дарагі Ўладыка Мітрапаліт!

Я. Сурынец

## ПСАЛЬМ 140

Гаспадару, Цябе клічу,
пасьпяшай Ты памагчы мне,
На мой голас абазьвіся,
як гукаю я няспынна.
Да Цябе мая малітва,
бы кадзільны дым хай сягне
Ды узьняцьце рук маіх хай
вечаровым дарам стане.

Гаспадару, налажы Ты
мне на губы моцны замык,
Варту выстаў сьцерагчы каб
каля вуснаў маіх брамы.
Ня хілі Ты майго сэрца
да нічога, што благое,
Ня ўчыніў каб я што кепска
у грахотных людзей коле.

Не дазволь ніколі Ты мне
ў іх гасьцёўм быць на застольлях,
Бо гаразд як годнік вытне,
ці за змыл дакорам ўколе,
Але злыднікаў алей хай
галавы мне не намасьціць
Ды мая прасьба дужэй хай
будзе іхнае напасьці.

Ўдол із краю стромкіх скалаў
як зьвярнулі іхных судзьдзяў
Ім тады ўрэшт цямна стала,
йз шчырых сказ што мой пачуцьцяў.
Як жарновы камень ў трэсьці
ўпаўшы вобзем разаб'ецца,
Косьцям іхным ў крушні ўрэшце
ўскрай бяздоньня будзе мейсца.

Да Цябе, Ўладару Божа,
вочы я мае зьвяртаю,
Схоў адно бо Ты даць можаш,
дык і душу маю збаві.
Ў пасткі мне што зрыхтавалі
ўсьцеражы, каб як ня ўпасьці,
Ад сілкоў, што пастаўлялі
ліхадзеі мяне засьці.

Хай ліхія ў пасткі трапяць,
што самыя пастаўлялі,
А я цэлы йсьціму напрасьць
маім шляхам сьмела далей.

## ДОБРЫ ПРЫКЛАД

У студзені 1999-га году ў Канадзе памёр гарачы беларускі патрыёт і шчыры вернік Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы сьв. пам. Лявон Наркевіч. Перад сьмерцяй нябожчык апісаў частку ягоных ашчаднасьцяў у суме 2,000.00 канадзкіх даляраў на Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. У пераліку на амэрыканскія грошы гэта дало 1,253.80 вельмі патрэбных нашай парахвіі даляраў.

Ягоным шчодрым дарам сьв. пам. Лявон Наркевіч заслужыў на доўгатрывалую ўдзячнасьць ды стаў прыкладам ўсім вернікам БАПЦ, што на памяць па сабе трэба пакідаць нятолькі каменныя помнікі.

## НЯЗЫХОДНАЯ ЙЗ ШЛЯХУ

(ПРАЦЯГ З 2-Е БАЧ.)

прыстасаваць на царкву, з заляй на парахвіяльныя й грамадзкія патрэбы.

У сваім собскім кутку парахвіяльнае й грамадзкае жыцьцё закіпела: пачала працаваць сыботняя беларуская школка з навучаньнем рэлігіі, ладзіліся парахвіяльныя й нацыянальныя ўрачыстасьці, зьбіраліся сходы й урадавалі грамадзкія арганізацыі.

Улетку 1960-га году, нажаль, адыйшоў на вечны супачын заснавальнік і дазнаны ў царкоўных справах райнік Парахвіі, а. Хведар Данілюк.

З набыцьцём будынку закіпела, аднак, нятолькі парахвіяльнае, але й агульнацаркоўнае жыцьцё: быў скліканы Сабор, на якім была створаная паўночнаамэрыканская япархія, быў таксама апрацаваны й прыйняты асамблеяй штату Нью Ёрк адумыслова закон, што вызначыў асновы існаваньня БАПЦ ў ЗША, далей рэгулярна выходзіў часапіс "Голас Царквы", штогод на 25-га Сакавіка Ўладыка Васіль з дэлегацыямі ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня езьдзіў у Вашыгтон, дзе ў Сэнаце ЗША чытаў малітвы, што давала магчымасьць знаёміцца з віцэ-прэзыдэнтамі й сэнатарамі, ды ўрэшшт праз колькі год Радыё Свабода перадавала ўладыкавыя беларускамоўныя рэлігійныя гутаркі.

Усё гэта не засталося незаўважаным у імпэрыі зла й, як трэба было чакаць, неўзабаве ў парахвію быў прысланы "Траянскі конь", што разам зь няйнакш, як прымушанымі праз націск на сваякоў парахвіянамі ды, надзіва, з падтрымкай пары эміграцыйных "палітыкаў", пачаў раскладаць верніцкую грамаду.

Нажаль, Уладыка Васіль, з добрага сэрца й уроджанае даверлівасьці не зразумеў небясьпекі й пастапаўся перад самаволяй бунтаўнікоў, пакуль ня стала позна й яму быў зачынены доступ у царкву.

Давялося скіраваць справу ў дзяржаўны суд, дзе бунтаўнікі прагралі й, не схацеўшы ўзноў падпарадкавацца сваёй царкоўнай уладзе, пайшлі ў чужую юрысдыкцыю, а "Траянскі конь", выканаўшы ягонае заданьне, зьнік бязь сьледу.

Закалот, пэўна-ж, зрабіў шкоду, але ня спыніў парахвіяльнага жыцьця й яно, пад старшынствам Міхася Тулейка, пачало хутка ачуньваць.

У агульнацаркоўным жыцьці таксама сталіся дзьве важныя падзеі - у 1968-м годзе былі ўсьвячаныя два япіскапы БАПЦ - сьпярша ўладыка Андрэй у Кліўлэнд, а ўсьлед Мікалай у Канаду.

З Божае волі, нажаль, сьледам за радасьцяй неўзабаве прыйшло сумаваньне, бо ў чырвені 1970 году нечакана цамёр Уладыка Васіль, а год пазьней у кастрычніку Уладыка Сяргей.

Пасьля сьмерці Уладыкаў Васіля й Сяргея, на чале БАПЦ стаў Уладыка Андрэй, а на II-м Саборы у 1972-м годзе ён быў абраны на Мітрапаліта ды БАПЦ была падзеленая на дзьве япархіі, і таму кіраўніцтва БАПЦ перайшло ў Кліўлэнд, а Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне фактычна перастаў быць катэдральным.

Гэта, аднак, ня зьменшыла значаньня парахвіі як вяднога асяродка аўтакефаліцкае думкі, што трымалася на гэткіх ейных выдатных абаронцах, як Міхась Міцкевіч і Пётра Манькоўскі, што далей рэдагавалі часапіс "Голас Царквы" ды інж. Мікалай Гарошка, што абняў старшынства Парахвіяльнае Рады.

Пастырскія абавязкі ў гэтым часе выконвалі айцы Карп Стар, Грэгоры Кістнэр і Васіль Кендыш, а хорам кіраваў Міхась Тулейка.

Акрыяньне парахвіі, пэўна-ж, ня прыйшло да спадобы няпрыхільнікам БАПЦ і неўзабаве сюды быў перакінуты ўзьняты ў Гайлэнд Парку закалот, праз што коратка напісана на 4-й бачыне ў гэтым нумары "Царкоўнага Пасланца".

Нажаль, гэтым разам таксама знайшлася частка хісткіх парахвіянаў, што ў 1980 г. да гэтага наступу далучылася й ад іхных няпраўных дзеяў узноў давялося бараніцца ў судзе.

Але, як і раней, у парахвіі было даволі сьведамых праўды вернікаў, што засталіся пры праўным кіраўніцтве БАПЦ, а бунтаўнікі, праграўшы справу, далучыліся да іхных папярэднікаў, зь якімі пазьней пакорна віталі Менскага мітрапаліта Філарэта.

З помсты за паразу, а маючы інфармацыйны манаполь у дыяспары, яны залажылі яшчэ байкот на весткі з жыцьця парахвіі й запраўднае БАПЦ, што трывае да сёньня.

На мейсца-ж бунтаўнікоў у парахвію прыйшлі ня-згодныя з няпраўным пераваротам у іхнай парахвіі парахвіяне з Гайлэнд Парку.

Тады-ж, пасьля адыходу на заслужаны адпачынак а. В. Кендыша, у 1981-м годзе духовае кіраўніцтва парахвіі абняў япіскап, а пасьля сьмерці Уладыкі Андрэя праўна абраны на III-м Саборы БАПЦ Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Парахвіяльную Раду ачоліў др. Расьціслаў Гарошка, а хорам пачаў кіраваць Барыс Данілюк.

Парахвія й Кіраўніцтва БАПЦ і ўзноў пачалі працаваць нармальна, але, калі Беларусь абвесьціла незалежнасьць, там, у выніку дэзыінфармацыі, замест праўнага кіраўніцтва БАПЦ, адраджэнскім актывам быў прыйняты пазбаўлены за шкодную дзейнасьць духоўніцкае годнасьці былы архіяпіскап Мікалай, што не зайняўся ўзнаўленьнем БАПЦ, а пакланяўся мітрапаліту Філарэту.

Гэтая шкода адчуваецца да сёньняшняга дня й папраўдзяць яе даводзіцца зь вялікімі цяжкасьцямі іншымі шляхамі.

У першай палове 90-х гадоў, калі Кангрэс ЗША рыхтаваў зьмену іміграцыйнага закону, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў зварочваўся да сэнатараў і кангрэсмэнаў з просьбамі на дазвол ўезду ў ЗША хоць-якой колькасьці беларусаў, але, не падтрыманыя грамадзкімі арганізацыямі, яны не далі выніку.

Затое, калі ў ЗША зьявіліся пацярпелыя ад рэлігійных і палітычных перасьледаваньняў на Беларусі, парахвія, дзякуючы ахвярнай працы сп-ні Алесі Сёмухі, памагала выпаўняць патрэбныя на атрыманьне палітычнага азылю паперы.

У выніку, сёньня парахвія амаль цалком складаецца з новых эмігрантаў, што праз знаёмствы прыцягаюць іншых вернікаў ды праз кантакты з Бацькаўшчынай шыраць там ідэю ўзнаўленьня роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Гэтым, пры Божым прыяньні, і вызначаецца роля ды будучыня парахвіі. *Б. Вярніковіч*

# ЦІ ЗАГУДУЦЬ ТУРАЎСКІЯ ЗВАНЫ?

Тураў - старадаўняе места беларускага Палесься, ведамае йз X стагодзьдзя. Менавіта тут была заснаваная першая на Беларусі япіскапія. Сёньня Тураў няпрыкметнае мястэчка на беразе Прыпяці, з насельніцтвам 3,500 жыхараў, у асноўным старых людзей. Але беларусы мусяць ведаць празь веліч колішняе духовае сталіцы.

"*Бе бо Рогъволод прішел і-заморья імяше власть свою в Полотьске а Туры Турове от негоже і Туровці прозвашася*". Так, паводле летапісу, у 980 годзе пачыналася гісторыя гораду. Тураўцы маюць веру, што праваслаўе яны прыйнялі раней за Кіяў. Вараскі князь Тур заснаваў места, даў ягоны назоў. Паводле паданьня, ён таксама ахрысьціў мяйсцовы люд у Прыпяці. У іншай вэрсыі тураўцаў ахрысьціла жонка князя Ігара вялікая княжна Вольга (Алена), што брала хрост у 957 годзе ў Царгорадзе. Праз гэта сьветчыць мяйсцовая песьня "*О прыйшла да нас Божа княжна Вольга*". У кожным выпадку у часе хрышчэньня Русі ў Тураве служыў уладыка Сымон.

XI-XIII стагодзьдзе - час росквіту Турава, згодна з крыніцамі ў горадзе існавала 75 (75) Божых храмаў. Менавіта йз асяродзьдзя заможных, адукаваных месьцічаў выйшаў восьмы тураўскі ўладыка Кірыл II, ведамы сьвету як Сьв. Кірыла Тураўскі. Ужо сучасьнікі называлі яго "*Златоустом, паче усіх на Русі восіявших*". Сёньня багатая духовая спадчына Кірылы вывучаецца дасьледчыкамі краінаў Эўропы й Амэрыкі. Цэрквы Сьв. Кірылы Тураўскага існуюць у беларусаў ЗША і Канады.

У той час, Тураў даў яшчэ некалікі Сьвятых. Гэта наступны тураўскі ўладыка Сьв. Лаўрын, Кіява-Пячорны замкнік і Сьв. Марцін - у жыцьці звычайны ўладыкаў кухар, але якому пашчасьціла пабачыць зьяўленьне Сьв. Барыса й Глеба.

Паданьне сьветчыць, што якраз у Тураве на абтоку сярод дрыгвы тураўскі князь Сьвятаполк Акаянны забіў у 1015 годзе Барыса й Глеба. Таму могілкі на гэтым мейсцы маюць іхнае ймя (у дыялекце "*Грыба-Барыса*"). Калі ў 1927 годзе падчас чарговага пахаваньня трапілі на каменны саркафаг, тураўцы былі ўпэўненыя, што гэта саркафаг Барыса й Глеба. У XII ст. жонка Сьвятаполка II Ізяславіча, Варвара заснавала першы на Беларусі жаночы Варварын манастыр. У тым самым часе дзеяў Барыса-Глебскі мужчынскі манастыр. На Замкавай гары быў пабудаваны велічны мураваны 6-слупавы, 3-апсыдны сабор. Побач да 1830 году узвышалася вежа, (накшталт славутае ў Камянцы, на ўскраі Белавескае пушчы), пакуль ня была разбураная на загад уладаў.

Стары велічны Тураў зруйнавалі на Хрыстовае Нараджэньне ў 1241 годзе татара-манголы. Пасьля захопу Кіява Чынгіз-ханаў унук Батый даў загад авалодаць местам. Тураўцы мужна сустрэлі процьмы хана Гаюка, але дазналі паразу. Татары зьнішчылі насельніцтва, цэрквы, манастыры й меставы сабор. Забілі ўсіх "*ад мала да вяліка*", у тым ліку духоўных і ўладыку. Тураў заняпаў, япіскапія была перанесеная ў Пінск.

Але праз высокую культуру сьветчаць розшукі гісторыкаў. Знойдзена шмат каменных рэзьбляных абразкоў, абразкоў літых з волава, крыжыкаў. Некалькі каменных саркафагаў. Усе яны гавораць праз існаваньне тураўскае школы мастацтва. Невыпадкова, што тураўскія майстры былі запрашаныя на працу ў Эўрапэйскія краіны. Нават у нацыянальным музэі Чывідалі (Італія) захаваліся царкоўныя мініятуры тураўскіх мастакоў. У 1866 годзе ў скрыні Ільінскае царквы былі знойдзеныя рэштккі Тураўскага Явангяльля XI ст. - наагул найдаўнейшага, ведамага па ўсім сьвеце, помніка хрысьціянскае пісьменнасьці славянаў. Багата ілюстраванае Тураўскае Явангельле сёньня захоўваецца ў Вільні. Таксама ў Вільні знаходзіцца другое Тураўскае Явангельле зь сярэдзіны XVI ст., сьпісак зь вельмі старога арыгіналу. На бачынах рукапісу прыпіскі на царкоўна-славянскай, старабеларускай і, нават, на армянскай (!) мове "нейкага сына Цатура з Турава".

У царкве сяла Старажоўцы захоўваўся сынодзік з Варварынскага манастыра зь імёнамі ўсіх 35 тураўскіх уладыкаў, пачынаючы ад першага Сымона да апошняга Аранія (Лецыда) Стагонскага, грэчына, хіратанізаванага ў 1621 годзе ярузалімскім патрыярхам Феафанам.

Празь першыя часы гісторыі хрысьціянства на Беларусі дагэтуль сьветчаць тураўскія каменныя крыжы. Вялізныя, простае формы, даўжынёю больш за 3 мэтры. Да 1917 году іх было 9, 4 у Тураве й па адным у навакольных вёсках Пагост, Хлупін, Перароў, Верасьніца, Адамічы. Сёньня засталося толькі 3. У народзе крыжы маюць розныя назовы, адна зь якіх "мокрыя", бо, паводле легенды, яны прыплылі супраць рачное плыні па Прыпяці й, калі іх затрымалі вада ператварылася ў кроў. Цікава, што гэткія паданьні ў VI-VII ст. распаўсюджвалі ірландзкія манахі. На сьвята Узьдзьвіжаньня ля тураўскіх крыжоў зьбіраліся ўсе паляшукі, крыжы лічыліся лекавымі, асабліва паможнымі ад вочных хваробаў.

У беларуска-жамойцкім гаспадарстве (Вялікім Княстве Літоўскім) Тураў паступова губіць значаньне гандлёвага й палітычнага цэнтру, але застаецца сядзібай Тураўскіх і Пінскіх уладыкаў, што наведвалі й жылі ў Тураве. Да XIX ст. каля Барыса-Глебскіх могілак узвышаўся мураваны "Уладычын двор". З 1508 г. Тураў - валоданьне слынных князёў Астрожскіх. Адзін зь іх Хведар - сьвяты, а два іншыя Канстанцін I і Канстанцін II лічацца мяйсцовымі сьвятымі. Пілігрым, які наведаў Тураў у 1582 годзе бачыў "14 храмаў, гарадок дрэвянный, невялікій ... рака пад ім Прыпяць, зь іншага боку возера вялікае, а места нешматлікае, толькі з Барысаў ...".

Люд Турава заўсёды адзначаўся моцнай верай у Хрыстовае Слова, пісьменнасьцяй. У XIX ст. наведвальнікі-этнографы зьдзіўляліся з таго, што жыхары добра ведалі творы Сьв. Кірылы, паданьні й гісторыю места, нятолькі мужчыны, але й маладзіцы чыталі кніжкі. Існавалі мяйсцовыя дынастыі

сьвятароў (Вячоркі, Лісоўскія, Залезьняковічы, Сулкоўскія, Руневічы), шмат хто зь месьцічаў выконваў дзякоўскія абавязкі. Нават у савецкі час ня было няшлюбных дзяцей (байструкоў). Калі ў 1926 годзе Тураў наведаў "бязбожны тэатр" (былі й такія) пад кіраўніцтвам Уладзіслава Галубка, ён не займеў ніякага посьпеху. Звыш таго ведамы драматург, пад уражаньнем крыжнага ходу йз мноствам сьвечак, абразоў, шчырае малітвы, зазначыў у дзёньніку: "У Тураве быццам у Палястыне".

Да 30-х гадоў XX ст. у цэнтры места стаяў сьвяты "Туркалодзесь". Старыя казалі, што "ён меў 3 дны - медзянае, срэбранэ й залатэ. Калі прарвецца першае - затопіць Тураў, калі другае - Тураўшчыну. а калі залатэ, дык вада захлыне ўвесь сьвет". У 1937 годзе камуністы засыпалі сьвятую крыніцу, яны, быццам, жадалі выратаваць увесь сьвет, але ў запраўднасьці загубілі сэрца Турава.

На нашую думку, савецкая ўлада мэтанакіравана зьнішчыла веліч аднаго йз сымбаляў Беларусі. Да вайны на Тураўшчыне былі разбураныя ўсе 17 цэркваў. У Сыбір былі засланыя й зьгінулі ўсе сьвятары. Калі апошняга абаранялі людзі йз Запясочча, ўлада адступіла, але ўначы тайком бацюшка ўсёроўна ўхапілі. Былі перайменаваныя спрадвечныя назовы вуліцаў, зруйнаваны гістарычны цэнтар. Нарэшце, у 1960 годзе ад Турава адабралі статус раённага цэнтру, ператварыўшы гэтым места ў звычайнае сяло. Ня маючы працы моладзь паехала ў сьвет. Места, якое налічвала амаль 25 тысячаў зьнікла на вачох. У 1986 годзе чарнобыльская бяда. Нарэшце, напрыканцы 80-х гадоў недзе зьнікл і назьбіраныя людзьмі на адбудову сабору грошы.

Сёньня Тураў пакрысе адраджаецца. На Замкавай гары пабудаваны велічны й прыгожы помнік Сьв. Кірылу Тураўскаму. У 1998 годзе каля царквы Усіх Сьвятых (1817) узьведзены помнік Дабравернаму князю Канстанціну II-Васілю Астрожскаму, што нарадзіўся й жыў у Тураве. Пасьля вялікага перапынку каля помніка адпраўляюцца малебны на роднай, беларускай мове. Штогод, 11 травеня на Замкавай гары бывае сьвята ў чэсьць Сьв. Кірылы Тураўскага.

Зь Нямеччыны й Ізрайля на нямецкія й жыдоўскія могілкі прыяжджаюць госьці. Беларусам у Тураве таксама ёсьць што пабачыць. Над Прыпяцяй відна ўзвышаецца Замкавая гара. Паводле паданьня, тут сярод дрыгвы, пабудаваў яе сам князь Тур з рачнога пяску, вугольля, бярозавай кары, гаршкоў з рыбінай лузгою ды зьвярыных касьцей. На гары дагэтуль падмурак першага на Беларусі сабору. Кожны Туравец завядзе вас на мейсца пахаваньня Сьв. Кірылы Тураўскага на Барыса-Глебскіх могілках, дзе можна пабачыць невялікі каменны крыж, што, быццам, кожны год павялічваецца. У царкве Усіх Сьвятых чэсьцяцца два вялізныя тураўскія крыжы, ёсьць літаграфічныя абразы з надпісамі адначасова на царкоўна-славянскай, беларускай, заходня-палескай і польскай мовах (!).

Малады, рухавы сьвятар а. Сяргей (Храпіцкі) марыць праз духовае адраджэньне Турава, аднаўленьне Тур-калодзезя, адчыненьне манастыра. Яго падтрымліваюць у пасялковай адміністрацыі, у настаўніцкім асяродзьдзі. Але няма грошай. Нешта ўсё-ж такі зроблена. Пабудаваная капліца на могілках. Настаўніца беларускае мовы Кацярына Папова вядзе нядзельную школку. Ёсьць добры прыклад дапамогі з моцнае праваслаўнае Беласточчыны (нашае колішняе правінцыі!). Летась дзеткі зь нядзельнае школкі гасьцявалі на Падляшшы. Мы, тураўцы, спадзяемся на лепшае.

Андрэй Катлярчук, доктар гісторыі
Uppsala University, Sweden

## ПСАЛЬМ 65

Азьвіся Богу радасна зямля,
На славу Имя ягонага пяі,
Хвалою чэсьць належную аддай
І моў "шмат спраў вялікіх Ты ўчыніў".

Ад вельма, Божа, дужасьці Твае
Бягуць упроч варожыя рады,
Няхай-жа ўся зямля паклон дае
Ды Имю Твайму сьпявае Наймажны.

Што справіў Бог дзівуйцеся усе,
Няма Ягоным дзеям бо роўні:
Убакі загад даў адступіць вадзе
Ды тупкі шлях праз мора адчыніў.

Няхай-жа наша радасьць будзе ў Ім,
Ён сьветам правіць кожнае пары,
Увесь час вачыма сочыць за людзьмі,
Хай не ўстаюць наўсупраць бунтары.

Ўсе дайце Богу нашаму хвалу,
Хай пахвалы Яму ня моўкне гук,
Таму, жыцьцё што ў нас Ён удыхнуў
Ды аб нівошта ног ня даў спаткнуць.

Ты, Божа, доўга выпрабоўваў нас,
Як срэбра вераць нас Ты прабаваў,
Ты, Божа, ў пасткі ўводзіў нас няраз
И вялікі нам цяжар на плечы клаў.

Людзкой Ты злыднай найсьці ці адной
Нам па галовах езьдзіць дазваляў,
Мы перайшлі праз воду ды вагонь,
Пакуль урэшт палёгку Ты паслаў.

Я спальны дар ў Твой хорам прынясу,
Каб мой аброк цалком сплаціць Табе,
Аброк, што даць я ўголас прысягнуў
За паратунак у маёй бядзе.

Я прывяду цялкоў на дар,
Дым узышлю палёны мізгіроў,
Ахвоча пакладу на Твой алтар
Упасьвяных бычкоў і ягнюкоў.

Прыйдзеце й чуйце Бога любіць хто,
Што Ён зрабіў маёй душы яўлю,
З прасьбой як я зьвярнуўся да Яго
И прагаласіў вялікую хвалу.

Калі-б ў маім я сэрцы меў віну,
Мяне-бы Гаспадар ня зволіў чуць,
Ды Бог нятолькі голас мой пачуў,
Але й здаволіў ўсю маю прасьбу.

Хвалёны Бог, што не адрок прасьбы
Ды ад мяне любоці не адняў.

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ 50-х УГОДКАЎ ПАРАХВІІ Ў БРУКЛІНЕ

Сьвяткаваньне 50-х угодкаў заснаваньня Парахвіі Катэдральнага Сабору БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ў нядзелю, 15-га кастрычніка г.г., пачалося а 10 г. Сьв. Літургіяй, якую адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з а. архім. Аляксеям і а. дыяканам Ігарам.

Удала сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Аляксандра Балотні-ка.

Усьлед за Літургіяй была ліція за супачын душаў заснавальнікаў Парахвіі й усіх ейных памерлых вернікаў, а таксама малебен з падзякай за дасюлешнюю Божую Апеку над Парахвіяй ды ўпрашаньнем далейшае Знайвышняе да яе й да БАПЦ Ласкі.



Частка прысутных на сьвяткаваньні 50-х угодкаў заснаваньня Парахвіі Катэдральнага Сабору БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й выканальнікаў прынагоднага канцэрту беларускае песьні.

Пасьля адправаў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў уручыў 55 вернікам падзячныя граматы за іхную ахвярную працу на карысьць Парахвіі й Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Зыйшоўшы затым у парахвіяльную залю шматлікая грамада маленьнікаў пабачыла ў ёй аздобленую прыгожа выпісаным мастаком сп. Сяргеям Капыткам прынагодным прывітаньнем сцэну, а таксама зладжаную ім з дапамогай сп. Андрэя Падлескага выставу здымкаў з 50-ці гадовага жыцьця Парахвіі.

Побач-жа спраўна працаваў прыгатаваны Парахвіяльным Сястрыцтвам буфэт із упадобнымі на беларускі смак, а не заўсёды даступнымі за мяжою роднымі стравамі.

Пасьля пасілкаваньня й гутарак із новымі, ды старымі знаёмымі прыйшла ўрэшце пара пачаць афіцыйную частку сьвяткаваньня.

Адчыняючы яе старшыня Парахвіяльнае Рады сп. др. Расьціслаў Гарошка прывітаў прысутных і папрасіў Я.М. Мітрапаліта Ізяслава пачаць урачыстасьць малітвай, якую ўсе падхапілі й прапялі разам.

Сьледам сп. Гарошка папрасіў прысутных ушанаваць памяць спачылых заснавальнікаў і будаўнікоў Парахвіі, ды БАПЦ хвілінай цішыні, што скончылася прапяяньнем "Вечная памяць".

Далей сп. Гарошка коратка згадаў мінулае Парахвіі й мовіўшы, што ейны стан цяпер дае надзею на будучыню, перадаў слова аднаму йз даўнейшых ды найстарэйшаму дзейнаму парахвіяніну сп. Барысу Данілюку.

Сп. Данілюк, успомніўшы важнейшыя мамэнты мінулага жыцьця Парахвіі, зрабіў з гэтага жыцьця высновы, якія, радасна вітаючы нядаўна прыбылую з Бацькаўшчыны новую зьмену вернікаў, раіў ім мець на ўвазе ў парахвіяльнай дзейнасьці.

Ягоныя парады гэткія: каб ня ўпэўніўшыся ў праўдзе, лёгка ня верыць, найчасьцей варожым, намовам супраць дзейных у царкоўным жыцьці вернікаў ды духовых кіраўнікоў, а таксама, каб ня ставіцца да Парахвіі паводле прыказкі "як з вачэй, дык і з памяці", а падтрымоўваць яе матарыяльна нават тады, калі ня выпадае прыходзіць на адправы.

Наступным прамоўцам быў таксама сьветка 50-ці гадовага існаваньня Парахвіі - старшыня Галоўнае Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антон Шукелойць.

Дадаўшы да сказанага перад ім некаторыя факты, сп. Шукелойць падкрэсьліў значаньне існаваньня Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскакага дзеля задзіненьня й падтрыманьня духовае моцы беларускіх эмігрантаў у Амэрыцы ў пару ейнага заснаваньня й цяпер.

Апошні з прынагодным словам выступіў прадстаўнік новае хвалі беларускае эміграцыі ў Амэрыцы сп. Юры Васілеўскі.

Ён із удзячнасьцяй згадаў цяплыню ды зычлівасьць, зь якою сустракалі новых беларускіх эміграntаў і памагалі, ды памагаюць ім як і чым могуць Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў ды старэйшае пакаленьне парахвіянаў Катэдральнага Сабору.

Да зьмены іміграцыйнага закону пры парахвіі нават існаваў адзіны ў беларускай дыяспары іміграцыйны адзьдзел, што памагаў рыхтаваць патрэбныя на атрыманьне палітычнага азылю паперы й знаходзіў перакладнікаў на апытаньні просьбітаў іміграцыйнымі ўладамі.

І цяпер, ня гледзячы на абмежаваньні іміграцыйнага закону, парахвія часта з посьпехам рэкамэндуе на азыль нашых людзей, што пацярпелі ад рэлігійных і палітычных перасьдаваньняў на Беларусі.

У немалой меры з гэтае прычыны ды яшчэ з тугі па Бацькаўшчыне, куточкам якое на чужыне ёсьць Катэдрадьны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага, сёньня ягоная парахвія амаль цалком складаецца з новых эмігрантаў.

Малады век новых эмігрантаў, ды іхная пабожнасьць і нацыянальная сьведамасьць, на думку сп. Васілеўскага, запэўніваюць парахвіі доўгае існаваньне й разьвіцьцё, ды моцнае ўзьдзеяньне на ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне.

На гэтым афіцыйная частка сьвяткаваньня скончылася ды прыйшла пара на прынагодны канцэрт, праграма якога была, мабыць, багацей за ўсе беларускія канцэрты, што былі дасюль у Нью Ерку.

Пачалі гэтую праграму шырака ведамыя й упадабалыя беларусам у Амэрыцы сьпевакі Валянтына (Пархоменка) і Алесь, ды Вольга Казакі, прапяяўшы пару рэлігійных і колькі народных, а таксама створаных беларускімі кампазытарамі песьняў, зьбіраючы за гэта град воплескаў.

Сям'я Казакоў зь няменшым посьпехам выступала разам яшчэ пазьней у праграме, а маладая кампазытарка Вольга Казак, выступаючы асобна, выклікала захапленьне публікі ейнымі творамі.

Далей на ня меншым мастацкім узроўні ды йз упадобай публікі выконвалі іхныя собскія творы й творы іншых беларускіх кампазытараў Аляксандар Балотнік, Уладзімер Гуткоўскі, Яўген Магаліф ды Раіса Пакроўная.

У канцы канцэрту сп-ням Валянтыне Пархоменка, Раісе Пакроўнай і Вользе Казак былі ўручаныя букеты кветак.

Пасьля канцэрту была яшчэ вечарына, на якой ахвочым патанцаваць граў Ігар Кавальчук.

Канчаючы апісаньне сьвяткаваньня хочацца горача падзякаваць нашым мастакам роднае песьні за іхныя бясплатныя выступленьні на канцэрце, што прыцягнулі на ўрачыстасьць так шмат публікі.

Шчырая падзяка належыцца й усім тым, што іхнай ахвярнай працай спрычыніліся да ўдачы сьвяткаваньня, у тым ліку й сп-м Юраму Чарнышову й Віталю Буносу, што напісалі й зьмясьцілі ў расейскай газэце, якую, зь нястачы свае, чытаюць новыя эмігранты, вялікі артыкул п.н. "С юбилеем, Собор!".

Шкада толькі, што радыё "Свабода" з царкоўнага сьвята зрабіла фэстываль, ня ўспомніўшы нават хто адпраўляў Божыя Службы. *Парахвіянін*

## У СПРАВЕ МАСКОЎСКІХ КАНАНІЗАЦЫЯЎ

Сёлета Маскоўскі Патрыярхат Расейскае Праваслаўнае Царквы кананізаваў 22 сьвятароў і аднаго дыякана зь Менскае япархіі на Беларусі, што ў 30 - 50-х гадах мінулага стагодзьдзя за Хрыстовую Веру былі перасьледаваныя ды забітыя савецкай маскоўскай уладай.

Раней яшчэ гэты-ж Патрыярхат кананізаваў Георгія Каніскага, што быў Магілёўскім архіяпіскапам у XVIII ст. і прасьвіцера Яна Кармянскага.

З увагі на тое, што займо Маскоўскім Патрыярхатам у 1686-м годзе тэрыторыяў Літоўскае й Кіяўскае Мітраполіяў, у якія ўваходзіла сёньняшняя Беларусь, супярэчыла канонам Праваслаўнае Царквы, Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы заяўляе, што Маскоўскі Патрыярхат ня мае кананічнага права кананізаваць каго-колечы для гэтых земляў й таму ягоныя пастановы ў гэтых справах няважныя й нядзейныя.

Да гэтага, як сьветчаць кананізацыі тым самым Патрыярхатам цара Мікалая II і ягонае сям'і, ды архіяпіскапа Георгія Каніскага, гэтыя кананізацыі нічога іншага, як паслужныя расейскім імпэрыяльным мэтам палітычныя манэўры, а ня выявы шчырае пашаны да запраўдных сьвятых.

Кананізацыю ўсіх тых, што празь іхные пабожнае жыцьцё дагадзілі Богу й сталі прыкладам Беларускаму Народу, ды нават дазналі мукаў і памерлі за Хрыстовую Веру, выканае ў будучыні, аб'ектыўна дасьледаваўшы факты, узноўленая на Беларусі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква.

## І ЯШЧЭ Ў БРУКЛІНЕ ...

Штогод у канцы верасьня амэрыканскія арганізацыі, што дбаюць праз палепшаньне места вакол Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, ладзяць вялікі кірмаш і парад - "Atlantic Antic".

На гэты дзень некалькі кварталаў шырокае авэню зачыняюцца для самаходнага руху й паабапал яе сотні гандляроў ставяць іхныя сталы й буды з рознымі, найбольш г.зв. этнічнымі, або, прасьцей кажучы, арабскімі, карэйскімі, кітайскімі й пад. стравамі, ды вырабамі.

Сёлета, падмацаваная сіламі новае эміграцыі, парахвія Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ўзнавіла ейны ўдзел у кірмашы, выставіўшы перад царквою два сталы з прыгатаванымі сястрыцтвам беларускімі стравамі.

Перад гэтымі сталамі, якія спраўна абслугоўвалі апранутыя ў беларускія народныя строі сястрыцы, адразу стала доўгая чарга, што не разыйшлася пакуль, яшчэ далёка перад канцом кірмаша, усе стравы ня былі прададзеныя.

Усім, што памаглі ў прыгатаваньні страваў, іхнай продажы й іншай падрыхтоўцы да кірмашу належыць шчырая падзяка.

- - -

5-га сьнежня г.г. адна йз вышэй успомненых амэрыканскіх арганізацыяў, паставіла ўжо другі год узапар у гародчыку перад саборам асьветленую лямпачкамі ялінку.

Дзякуючы шырокай рэкляме ўрачыстасьць запальваньня ялінкі сёлета прыцягнула шмат публікі.

# З ЖЫЦЬЦЯ ПАРАХВІЯЎ БАПЦ Ў АЎСТРАЛІІ

У нядзелю, 26-га лістапада г.г., парахвія Сьв. Ап. Пятра ў Паўла ў Кілкэны (Адэляйда) сьвяткавала 80-я ўгодкі Слуцкага Змаганьня.

Царква й прыцаркоўная заля былі прыгожа прыбраныя жывымі кветкамі.

Літургію адправіў а. прпрсьв. Пётр Касацкі.

Царква была поўная парахвіянамі, шмат зь іх у нацыянальных строях.

Добра сьвяваў царкоўны хор.



Айцец пратапрасьвіцер Пётр Касацкі 26. XI. 2000 служыць паніхіду за супакой душаў Слуцкіх Змагароў у царкве Сьв. Ап. Пятра й Паўла ў Кілкэны.

А. ппрсьв. Касацкі на пропаведзі вельмі добра сказаў праз герояў-случчакоў.

У канцы Сьв. Літургіі хор прапяяў беларускі рэлігійны гімн "Магутны Божа".

Пасьля пачалася паніхіда, падчас якое два вэтэраны трымалі сьцягі, беларускі й аўстралійскі.

У канцы паніхіды а. Пётр яшчэ раз сказаў вельмі чулыя словы праз Слуцкіх Змагароў.

Ягоныя словы кранулі сэрцы ўсіх вернікаў, шмат у каго на вачах былі відныя сьлёзы.

Пасьля адправаў кіраўнік парахвіі запрасіў усіх прысутных у прыцаркоўную залю на пачастунак, які прыгатавала сястрыцтва.

Перад пачаткам пачастунку а. Пётр заклікаў Божае прыяньне на спажытак ежы й усе застольнікі прапяялі "Войча наш".

Тады на заклік старшыні Парахвіяльнае Рады сп. Васіля Яновіча царкоўны хор выйшаў на сцэну й пад акампаніямэнт на акардэоне сп. Міколы Андрусіка прапяяў "Сьпі пад курганам герояў" і "У гушчарах ...".

У канцы афіцыйнае часткі прагучаў беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Пачастунак прадоўжыўся да 5-е гадзіны папаўдні.

Перад адыходам дахаты айцец Пётр змовіў падзячную малітву й прасьбу Божага прыяньня прысутным.

Гэтак, у добрым настроі ўсе адыйшлі дамоў.

*Ул. Акавіты*

- - -

- У нядзелю, 3-га сьнежня г.г., пасьля Сьв. Літургіі ў парахвіі Сьв. Ап. Пятра й Паўла ў Кілкэны адбыўся гадавы парахвіяльны Сход дзеля прыйма справаздачы дасюлешняе Парахвіяльнае Рады й выбараў новае.

Сход праслухаўшы справаздачу зь дзейнасьці дасюлешняе Парахвіяльнае Рады, у складзе: Васіль Яновіч - старшыня, Міхаіл Шчурко - заступнік, Мікалай Кандрусік - сакратар, Галіна Кандрусік - скарбнік, Вольга Кулініч - сябра, Міхаіл Кубрак і Леанід Журомскі- старасты, ды Соня Рубаха - "public officer", на прапанову Рэвізыйнае Камісы і гэтую дзейнасьць ухваліў і выказаў за яе Радзе падзяку.

У новую Парахвіяльную Раду былі выбраныя: Міхаіл Шчурко - старшыня, Вольга Кулініч - заступнік, Мікалай Кандрусік - сакратар, Галіна Кандрусік - скарбнік, Аўксент Чарнагалан - сябра, Мікалай Кубрак і Леанід Журомскі - старасты, ды Соня Рубаха - "public officer".

У Рэвізыйную Камісыю ўвайшлі: Ліда Шамшурын, Васіль Яновіч і Славамір Камінскі.

Жадаем новай Парахвіяльнай Радзе Божага прыяньня на посьпех у працы на дабро парахвіі й Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

\- *** -

У нядзелю, 19-га лістапада г.г., парахвія Сьв. Віленскіх Мучанікаў у Яравіл (Мэлбурн) адзначала 19-я ўгодкі асьвячэньня царкоўнага будынку.

Сьв. Літургію й падзячны малебен адправіў кіраўнік парахвіі а. пратапрасьвіцер Аляксандар Кулакоўскі.

Пасьля адправаў у прыцаркоўнай залі быў супольны пачастунак.

Урачыстасьць упрыгожыў сьпевам беларускіх песьняў жаночы хор "Каліна".

- - -

У нядзелю, 26-га лістапада г.г., парахвія Сьв. Віленскіх Мучанікаў у Яравіл чэсьціла 80-я ўгодкі Слуцкага Змаганьня.

Сьв. Літургію й паніхіду за супакой душаў Слуцкіх Змагароў адправіў а. прпсьв. Аляксандар Кулакоўскі.

Пасьля адправаў у прыцаркоўнай залі была сьцецкая частка сьвяткаваньня.

**ПАДТРЫМАЙЦЕ "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА" ВАШАЙ АХВЯРАЙ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД!**

## ЦАРКОЎНЫЯ СПРАВЫ НА ЎКРАІНЕ

Адразу пасьля распаду Савецкага Саюзу й абвешчаньня сувэрэнітэту Украіны патрыятычна настроеная частка праваслаўных герархаў, духавенства й вернікаў пачала йз уздымам узнаўляць цезалежную ад Маскоўскага Патрыярхату краёвую Украінскую Праваслаўную Царкву.

Нажаль яшчэ большая частка, асабліва ўва ўсходніх акругах краю, да гэтага руху не далучылася й дасюль застаецца ў юрысдыкцыі Маскоўскага Патрыярхату.

Узнаўленьне ачоліў мітрапаліт Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША Мсьціслаў, што на Саборы ў Кіяве ў 1990-м годзе быў абраны на пасад першага Кіяўскага Патрыярха.

Неўзабаве, аднак, з розьніцы паглядаў, або йз узаемных асабовых нехацяў, гэтае ўзнаўленьне пайшло двама адно да аднаго няпрыязнымі рэчышчамі.

Пасьля-ж сьмерці Патрыярха Мсьціслава ў 1993 годзе дайшло да фармальнага падзелу: быў створаны Кіяўскі Патрыярхат Украінскае Праваслаўнае Царквы на чало якога стаў Патрыярх Уладзімер (Раманюк) і Патрыярхат Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, які ачоліў таксама Кіяўскі Патрыярх Зьміцер (Ярэма).

Але й Патрыярху Уладзімеру Бог ня судзіў даўжэй пабыць на пасадзе, бо ён раптоўна памёр у 1995-м годзе.

Весткі праз напад украінскіх АМАП'аўцаў на пахавальны йсьцеж зь ягонай дамавінай разыйшліся няпрыемным рэхам па ўсім сьвеце.

На мейсца памерлага Патрыярха Уладзімера на Кіяўскага Патрыярха УПЦ быў абраны яшчэ ў савецкую пару пастаўлены Кіяўскі Мітрапаліт Філарэт (Дэнысэнка).

Нядоўга пасьля сьмерці Патрыярха Мсьціслава япіскапы Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША зракліся аўтакефаліі й падаліся пад апеку Канстантынопальскага Патрыярхату, выпраўдваючы іхны крок тым, што ён паспрыяе задзіненьню ўкраінскіх цэркваў ды зацьверджаньню ўкраінскае аўтакефаліі Канстантынопальскім патрыярхатам.

Не зважаючы, аднак, на выпраўдваньні, гэты крок выклікаў хвалю нездаволеньня й пратэстаў, як сярод украінскае эмграцыі, гэтак і ў краі.

На Украіне-ж, галоўным чынам зь нястачы прыхільнае да нацыянальнае Праваслаўнае Царквы ўрадавае палітыкі ды абсад дзяржаўнае адміністрацыі пра-маскоўскімі савецкімі бюракратамі, царкоўныя справы йшлі па рознаму: калі Кіяўскі Патрыярхат УПЦ з большага адольваў афіцыйныя й іншыя свомыя пасьлясавецкай пары перашкоды, Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква перажывала цяжкасьці, як нутраныя, гэтак і вонкавыя, у ліку якіх было нават і адкліканьне ейнае рэгістрацыі.

Кіяўскі Патрыярхат, тымчасам, карыстаючы зь незадаволеньня вернікаў з падпарадкаваньня япіскапаў УПЦ у ЗША Канстантынопальскаму Патрыярхату, пачаў прыймаць у ягоную юрысдыкцыю амэрыканскія парахвіі, што, узноў-жа не магло прыйсьці тым япіскапам даспадобы.

Гэта апошняе, мабыць, і падштурхнула япіскапат УПЦ у ЗША да зьбліжэньня з Украінскаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою, Патрыярх якое, Зьміцер, пачаў выступаць за г.зв. "эстонскі варыянт", г.зн. існаваньне ў адной дзяржаве дзьвёх кананічных юрысдыкцыяў, у дадзеным выпадку з ухвалы Канстантынопальскага Патрыярхату аўтакефальнае ўкраінскае побач з маскоўскай.

Гэтую прапанову, памёрлы сёлета ўзімку Патрыярх Зьміцер, абярнуў у пасьмяротны наказ УАПЦ падпарадкавацца ўлучанай у юрысдыкцыю Канстантынопальскага Патрыярхату Украінскай Праваслаўнай Царкве ў ЗША, ды, здабыўшы гэткім чынам кананічнае зацьверджаньне, задзініць украінскія праваслаўныя юрысдыкцыі ў адну краёвую, кананічна вызнаную, аўтакефальную Царкву.

З гэтай мэтай япіскапы УПЦ у ЗША вялі перамовы зь Кіяўскім Патрыярхатам УПЦ, Украінскім Экзархатам РПЦ, урадам Украіны ды наведвалі Канстантынопальскі й іншыя Праваслаўныя Патрыярхаты.

Падчас гэтых наведаў Канстантынопальскі Патрыярхат зажадаў, каб УПЦ у ЗША пазьбірала гістарычныя матарыялы й тэрытарыяльныя довады, ды дакумэнты з пары існаваньня Кіяўскае Мітраполіі перад ейным падпарадкаваньнем Маскве ды разам з тым падала абгрунтаваньне некананічнасьці гэтага падпарадкаваньня.

Ініцыятыва япіскапату УПЦ у ЗША была падтрыманая прэзыдэнтам і ўрадам Украіны, што зьвярнуліся ў гэтай справе да Канстантынопальскага й Маскоўскага Патрыярхаў.

Здавалася ўсё йшло як трэба й на канчатковае пагадненьне была прызначаная на канец ліпеня г.г. сустрэча ўсіх украінскіх юрысдыкцыяў у Цурыху, на якой меў быць прысутны й Канстантынопальскі Патрыярх Баўтрамей І.

Ружовыя надзеі на асягненьне на сустрэчы царкоўнага адзінства, аднак, ня збыліся, ведама-ж з прычыны Маскоўскага Патрыярхату, летні Сабор Япіскапаў якога не схацеў зрачыся ўлады над Украінаю, у выніку чаго сустрэча была адкліканая.

Пасьля гэтага, 14-га й 15-га верасьня г.г. ў Кіяве адбыўся Сабор УАПЦ, на якім Мітрапаліт УПЦ ЗША Канстанцін прыйняў духовую апеку над гэтай Царквою, а на кіраўнічы пасад, замест на патрыярха, перадстойнікам (прадстаяцелям) быў абраны Мітрапаліт Мяхвод.

На сёньняшні дзень выглядае, нажаль, што справа задзіненьня ўкраінскіх праваслаўных цэркваў стала на мейсцы, бо хоць ёсьць прынцыповая згода на гэта Кіяўскага Патрыярхату УПЦ і УАПЦ, маскоўская юрысдыкцыя, бяз моцнага, як у 20-х гадох мінулага стагодзьдзя ў Польшчы, а наўгад ці магчымага на Украіне урадавага нацiску, далучыцца да аўтакефаліі ня схоча.

Таксама й дачыненьні паміж Кіяўскім Патрыярхатам і УПЦ у ЗША ня дужа цёплыя, бо гэты Патрыярхат далей пераймае пад ягоную ўладу амэрыканскія, а апошня й аўстралійскія парахвіі.

Ды спадзявацца, што Канстантынопальскі Патрыярхат адважыцца, бяз згоды Масквы, пайсьці на "эстонскі варыянт" на Украіне цяжка. *Зірбіт*

## ДА НАС ПІШУЦЬ

З розных прычынаў у рэдакцыйнай паштовай скрынцы часам бывае густа, а часам пуста.

Гэтым разам, хоць і ня густа, але зьмястоўна, а таму й ёсьць чым падзяліцца з нашымі чытачамі.

Ліцьвін зь Менска піша нам:

*"Дзякуй ... за ўвагу да ... маёй асобы.*

*Мне ... няёмка, што я не магу адплаціць ... за тую ласку й маральную дапамогу, што прамяніць у "Царкоўных пасланцах"...*

*Я ... шкадую, што не магу далучыць да гэтага ... суайчыньнікаў, бо для гэтага патрэбныя некаторыя ... ўмовы, а я тут не вельмі прыдатная асоба.*

*Тым ня менш хачу зрабіць заўвагу, што ўхіл "Пасланца" ў гістарычнасьць, адрывае яго ад сёньняшніх праблемаў беларусаў-ліцьвіноў, звужае тым кола чытачоў-прыхільнікаў беларускага праваслаўя.*

*Не адчуваецца сувязь з Айчынай. Таму агульнае ўражаньне атрымоўваецца крыху пэсымістычным, безнадзейным ... Але ж ёсьць альтэрнатыва нашым грахоўным мірскім памкненьням! Дык пакажыце яе, калі ласка, і абгрунтуйце, тым больш, што няма зараз даверу сучасным пасярэднікам паміж міранамі і Богам - культавым слугам царквы ад Масковії".*

Нам прыемна, што наш часапіс прыносіць іскрынку сьвятла ў жыцьцё Ліцьвіна зь Менска, ягоныя словы даюць надзею на гэткае-ж уздзеяньне часапісу на іншых, а гэта нам найлепшая заплата.

Што да немагчымасьці, дзеля асабовых, ці навакольных умоваў, далучаць да гэтага ўзьдзеяньня суайчыньнікаў, дык, апосталы былі простымі рыбакамі, а весьцячы Хрыстовую Навуку збудавалі сусьветную Божую Царкву.

Не раўнуючыся зь імі, сябры рэдакцыйнае калегіі "Царкоўнага Пасланца" хоць не нарадзіліся рэдактарамі, ці пісьменьнікамі, або журналістамі, калі прыйшла патрэба й зьявіўся абавязак, не адмовіліся з патрэбай справіцца ды абавязак выканаць.

Таму й Ліцьвін зь Менска, пачаўшы працаваць сярод суайчыньнікаў, пэўна знайшоў-бы ў сабе патрэбныя на гэта якасьці, якія памаглі-б выкарыстаць і навакольныя ўмовы.

Ухіл "Царкоўнага Пасланца" ў гістарычнасьць, хоць, як нам здаецца, і невялікі, не павінен быў-бы выклікаць крытыку з боку беларусаў-ліцьвіноў, ані звужаць кола чытачоў, бо бяз памяці гістарычнае спадчыны няма нацыі й няма нацыянальнае Царквы, а ці-ж гэта ня нашая супольная мэта?

Да гэтага трэба-ж урэшце выявіць, што ў нашай мінуласьці якраз праваслаўе, а ня іншая вера, было дзяржаўна ды нацыянальна творчым дзейнікам.

Што да сёньняшніх праблемаў беларусаў-ліцьвіноў, дык і яны не застаюцца вонках увагі часапісу, бо, ці-ж расейскае царкоўнае займо й неабходнасьць узнаўленьня роднае Праваслаўнае Царквы, безь якое немагчымая дзяржаўная незалежнасьць, ня нашая супольная праблема, ці-ж палітычнае безгалоўе, праз якое мы пісалі ў артыкуле "Куды йдзем" у папярэднім нумары часапісу ня прычына нашае нацыянальнае бяды.

Калі-ж ідзе праз г. зв. зваротную сувязь з Бацькаўшчынай, або водгукі нашых чытачоў адтуль, дык яна ад самага пачатку была й да сёньня ёсьць, не заўсёды аднолькава багатая ды йз зразуменных прычынаў не заўсёды прызначаная на публікацыю.

Цяжка ўявіць, чаму з гэтага вынікае пэсымістычнае, або й безнадзейнае ўражаньне, а які-ж тады настрой быў-бы, калі-б "Царкоўнага Пасланца" зусім ня было?

Урэшце Ліцьвін зь Менска кажа праз альтэрнатыву на нашыя граховыя сьветнія паймкненьні, якую мы павінны паказаць ды абгрунтаваць.

Адзіная альтэрнатыва на гэтыя паймкненьні, якую мы ведаем і вызнаем, гэта абапертая на Хрыстовую Навуку Вера ў Бога, ды патрабаваныя гэтай Верай добрыя ўчынкі.

Абгрунтаваць, ці даць як у матэматыцы довад на гэтую Веру, калі й магчыма, дык, нажаль, не на нашыя сьціплыя эміграцыйныя сілы, але прызнаемся, што больш пісаць на гэтую тэму ў часапісе трэба й гэта мы будзем старацца рабіць.

Затое, як Ліцьвін зь Менска мусеў пераканацца, мы ўжо цяпер весьцім альтэрнатыву на выкарыстоўваньне "культавымі слугамі царквы ад Масковії" Веры на прыладу імпэрыялістычных мэтаў, народагубства ды выпраўдваньня гвалту й галечы - гэтая альтэрнатыва - узнаўленьне на Бацькаўшчыне роднае й вернае Божым Наказам ды спрыяльнае нашым нацыянальным асаблівасьцям Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Зь іншага кутка Беларусі крыху йнакш нам піша іншы наш прыхільнік:

*"... апошнім часам ЦП вельмі палепшаў - стала больш разнастайных матарыялаў, з'явіліся фотаздымкі.*

*Цудоўна, што з'явілася англамоўная версія ЦП! Як я заўважыў, яе піша вялікі знаўца праваслаўя - гэтага нам не хапала астатнім часам (маю на ўвазе беларускамоўны ЦП). Ён піша займальна, з глыбокімі ведамі, грунтоўным аналізам і пераканаўчымі спасылкамі.*

*Хацелася-б парадзіць абавязкова змяшчаць у ЦП адрас web-site і e-mail ВАОС ...*

Далей дапісчык апавядае, як яго былі выклікалі ў адну з уладавых установаў, дзе выпытвалі праз сувязі з замежнікамі, у тым ліку й з БАПЦ ды Ейнымі прыхільнікамі на Беларусі, ды, выяўляючы добрае веданьне гісторыі й сучаснасьці БАПЦ, а таксама дапісчыкавага ліставаньня й тэлефонных размоваў, пераконвалі адмовіцца ад ягоных памылак.

Нічога ад яго не даведаўшыся, пачалі абліваць брудам БАПЦ і Ейнае кіраўніцтва, ды ўсьлед прапанаваць супрацоўніцтва, за якое абяцалі добрую працу й іншыя дабрадзействы.

Калі й гэта не дало патрэбнага ўладзе выніку пачаліся пагрозы й запалохваньні рознымі "мерамі ўзьдзеяньня".

Дапісчык із собскага дазнаньня пераканаўся, што ворагі БАПЦ ня сьпяць і ўпэўнены, што ён не аддзіны аўтакефаліст, якога сёньняшняя ўлада над Беларусяй запрашае на гэткія размовы.

Ліст нашага дапісчыка яшчэ адзін довад, што, парафразуючы словы камуністычнага маніфэсту, па Беларусі ходзіць прывід узнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Гэты прывід не дае спакою сёньняшняй уладзе над Беларусяй, якая разумее, што ўзнаўленьне БАПЦ будзе зарукай дзяржаўнае незалежнасьці краю й канцом антынароднага панаваньня.

Не заўважае гэтага, нажаль, нашая дэмакратычная апазыцыя й не разумее, што за апошняе дзесяцігодзьдзе ад расейскага вялікадзяржаўнага, нятолькі збройнага, але й духовага займа, змаглі вызваліцца адно народы з асобнымі ад акупанцкай нацыянальнымі цэрквамі.

Гэтую сьлепату падтрымоўваюць абсаджаныя няпрыхільнікамі запраўднае БАПЦ замежныя весьцьнікі інфармацыі, што зманваюць нясьведамых "аб'ектыўнымі", быццам, весткамі праз хвальшывых "першагерархаў і патрыярхаў БАПЦ" ды іншых, пад імём гэтае Царквы дзейных сэктантаў і безсаромных ашуканцаў.

Варочаючыся да ліста нашага дапісчыка, просім выба-

чэньня, што на ягоныя іншыя прапановы й пытаньні, якія ня варта адкрываць на бачынах часапісу, ён атрымае адказ лістом пасьля калядніх сьвятаў.

Лістоўныя адказы атрымае й колькі іншых нашых дапішчыкаў.

Урэшце, падаем выйняткі з праніклага пэсымізмам ліста праз жахі сёньняшняга жыцьця на Беларусі:

*"Наш (горад) ужо непадобны на той, які Вы памятаеце. Шмат архітэктурных помнікаў зруйнавана, многія занядбаны. Беларускай мовы амаль не чуваць, расейшчына моцна ўжылася. Асабліва сярод маладых. Самае страшнае, што расейшчыну прапагандуюць "беларускія" тэлебачаньне і радыё. Такая ціхая акупацыя зноў паўзе на нашыя абшары. Паўзе й праз расейскую царкву, праз расейскую школу ...*

*Вёскі нашы паміраюць. У маёй вёсцы ... (дзе нарадзіўся бацька) засталося пару дзесяткаў жыхароў, у асноўным старых, п'яніц, дзяцей амаль няма. Аўтобус у вёску ходзіць толькі тры разы на тыдзень ... Вёска ажывае, калі з гораду прыяжджаюць людзі садзіць або капаць бульбу.*

*Наогул людзі збяднелі так, што некаторыя галадаюць, перабіваюцца з хлеба на бульбу. Цэны на харчы падніма̀юцца штотыдзень. Але людзі церпяць. Маладзейшыя неяк стараюцца зарабіць, едуць за мяжу. Прыкрая зьява - некаторыя запісваюцца ў БНФ толькі для таго, каб атрымаць на захадзе палітычны прытулак ...*

*Многа людзей усё яшчэ вераць Лукашэнку. Памятаю, як ... хвалі ..., ахвяру савецкіх партызанаў у час вайны ... Казалі прамовы па-беларуску, пакрылі труну бел-чырвона-белым сьцягам. І людзі не былі супраць. А ўжо пасьля, як ... спытаў у вясковых бабуль, за каго яны будуць галасаваць, тыя ў адзін голас сказалі, што "за свайго, за Лукашэнку"...*

*Бяда наша, праклён нейкі ляжыць на нашым краі. За тое, што не абаранялі пад савецкай акупацыяй свае сьвятыні, сваіх сьвятароў, што не хадзілі ў храм, не верылі ў Бога. І сёньня ў (горадзе) стаяць помнікі кату-Леніну. Адзін зь іх выцягнуў руку і паказвае на будоўлю праваслаўнага сабора ...*

Зьмясьцілі мы гэтыя пэсымістычныя радкі наапошку не на тое, каб безнадзейным настроям прайняць нашых чытачоў, а наадварот, каб нагадаць, што нятолькі ад гэнага настрою, але ад ягоных прычынаў ёсьць ратунак.

Гэты ратунак - Вера ў Бога, ўпрашаньне скараціць насланыя Ім на нас выпрабаваньні ды змаганьне супраць зла на заслугу Божага зьмілаваньня на зямлі й у небе.

Што гэтая Вера не дарэмная, хай прыкладам будзе нам Ізраількі народ, што зь вераю, пасьля 2000-гадовага выгнаньня й нацысцкага высеку, здабыў назад сваю зямлю, вярнуў родную мову й заняў пачэсны пасад між народамі.

Зь Вераю, што Бог ёсьць і скароціць нашыя цярпеньні, калі пад повадам роднае Царквы цьвёрда станем на праўдны шлях ды не паступаючыся злу будзем дагаджаць Яму добрымі ўчынкамі, бяз сумневу асягнем гэтую мэту й мы.

## ЗЬМЕНА АДРЫСУ

Пасьля друку "Беларускага Праваслаўнага Каляндара на 2001-шы Год" А. Архімандрыт Аляксей Драздоўскі зьмяніў пададзены там у даведніку БАПЦ ягоны адрыс на наступны:

Rt. Rev. Archimandrite Alexei Drozdowski
P.O. Box 1006, North Cape May, N.J. 08204
Tel.: 1 609 729 7082

## ТОЕ ШТО ЛЮБІМ - САМЫЯ ГУБІМ

Сёлета ўвосені выйшаў у сьвет "American Heritage Dictionary" - слоўнік, што адлюстроўвае сучасны слоўны запас ангельскае мовы й перавыдаецца кожныя дзесяць год.

У апошнім выданьні 9,000 новых словаў, пераважна з галінаў мэдыцыны й кампютарнае тэхнікі, але ў немалой колькасьці й зь іншых ведаў, ды борзда зьменнага ў наш час людзкога побыту.

Нажаль, спадзявацца, што ў "беларускай дзяржаве" зьявіцца падобны на амэрыканскі, або які-колечы іншы слоўнік беларускае мовы, не даводзіцца, але з назіраньня можна йз упэўненасьцяй сказаць, што за апошняе дзесяцігодзьдзе ў нашай гутарцы й пісьме зьявілася без раўні далёка менш, як у ангельскай, новых словаў.

Прычынай на гэта не адно дзяржаўная забарона на ўзбагачваньне нашае мовы ды загад на ейнае засьмечваньне расейскімі словамі, але й змалку прышчэпленая нават ейным любцам хвароба нехаці да г. зв. дыялектызмаў, архаізмаў і новатвораў.

Побач з гэтым выяўляюцца, як веданьне нашае мовы ня з роду, а толькі зь нядбайнае й кароткае навукі ў школе, або з наслуху г.з "трасянкі", гэтак і сьлед не штодзённага, а рэдка дазволенага ўладай карыстаньня ёю ў паказных, можна назваць, "нацдэмаўскіх катухах".

У выніку, не ўспамінаючы ўжо гутаркі, друкаванае слова пярэсьціцца гэткімі дзівосамі, як "*(на лятарэі падчас калгаснага кірмашу) можна было выграць маладога парасяці*" = (рас. *молодого поросёнка*), або "*чаму настаўнікі вучаць*" = (рас. *чему учат учителя*), або апошня раптам выскаклае "*адносіны з гэтае савецкае ўладай*", ці "*ў гэтае справе*".

У гэтых прыкладах павінна было-б быць: "*малое парасё*", "*што настаўнікі вучаць*" і "*дачыненьні з гэтай савецкай уладай*", ды "*ў гэтай справе*".

Але не аднымі русыцызмамі хварэе нашая мова, далягаюць ёй і палянізмы, да якіх мы мала асьцярожныя, як хоць-бы да словаў "квітнець, квітнеючы", што некалі падаваліся за прыклад моўнага разьвіцьця ў БССР, а ў запраўднасьці нічога іншага, як польскія "kwitnonc, kwitnoncy".

Трапляюць да нас і ўкраінізмы, адзін зь якіх гэта слова "*сьвяточны*", хоць паводле вымогаў нашае мовы трэба было-б казаць "*сьвятні*".

Закрануўшы ўрэшт пабожную тэрміналёгію, нельга не зьвярнуць увагу на неналежнае ды з польскга ўзору ўзятае карыстаньне словамі "*сьвяціць, сьвячаць*", як напр. "*высьвяціць на япіскапа, высьвячаць на сьвятароў*", дзе трэба было-б казаць "*усьвяціць на япіскапа*" й "*усьвячаць на сьвятароў*".

Здаралася яшчэ сустракаць у друку азначэньне хрысьціянскіх цэркваў і малітоўных дамоў словам "*бажніца*", хто змалку размаўляе пабеларуску ведае, што гэтак называліся адно жыдоўскія сынагогі, або яшчэ, як казалі школы.

Каб стрымаць прысуджанае ворагамі паміраньне нашае мовы тым, што яе любяць нятолькі нельга баяцца памнажаць ейнае слоўнае багацьце, але й трэба пры кожнай нагодзе знаёміць з гэтым багацьцем якнайболыш нашых краянаў.

## НА ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЕ

У 2000-м годзе ўрэшце паказаліся доўга чаканыя новыя ўсходы на выдавецкай ніве БАПЦ.

Першым зь іх на Вялікдзень было сьціплае яшчэ, бо надрукаванае толькі на 8-мі бачынах, але вельмі патрэбнае англамоўнае выданьне "Царкоўнага Пасланца". Здабыла яно добрую ацэну чытачоў і застаецца толькі пажадаць, каб стварыліся фінансавыя магчымасьці павялічыць лік яго ных бачынаў ды наладзіць шырэйшае распаўсюджаньне сярод замэрыканізаванага, ці занглізаванага пакаленьня праваслаўнае беларускае эміграцыі.

Другім, таксама сьціплым - толькі на 48-мі бачынах, але ўжо кніжным выданьнем стаў зборнічак друкаваных раней у "Царкоўным Пасланцы" рыфмаваных пераказаў выбраных псальмаў і іншамоўных пабожных вершаў Барыса Данілюка.

Зборнічак зьвяртае на сябе ўвагу перадусім чыстай і песеннай народнай мовай ягоных, як аўтар называе, пераказаў, з чаго відно, што якраз гэты стыль мовы й павінен быць скарыстаны на пераклады царкоўных тэкстаў.

Раўнуючы зьмест пераказаў зь іншамоўнымі узорамі, у тым ліку й царкоўна-славянскім, можна сказаць, што, не зважаючы, на "ўцісканьне" гэтага зьместу ў рыфмаваныя радкі, ягоны сэнс амаль дакладна адпавядае арыгіналам.

Таму й пераказы псальмаў Барыса Данілюка, магчыма зь дзе-якімі зьменамі, заслугоўваюць на тое, каб імі карыстацца ў адправах.

Пры вострай патрэбе на пабожныя беларускія песьні варта было-б таксама падумаць, як апублікаваць ужо напісаныя ноты да дзе-якіх перакладзеных сп. Данілюком псальмаў і вершаў.

Усьлед за псальмамі, пасьля 30-ці гадовага перапынку, узноў выйшаў друкам настольны "Беларускі Праваслаўны Каляндар на 2001 Год" на 98-мі бачынах.

Праўда, праз папярэднія 30 год БАПЦ ня была без свайго настольнага каляндара, бо ў гэтыя гады складаў яго на пісьмовай машынцы й друкаваў рататарным спосабам а. пртпрсьв. Аляксандар Кулакоўскі, за што яму глыбокая ўдзячнасьць.

Магчымасьці машынапісу й ратарнага друку, аднак, вельмі абмежаныя й пераход на кампютарнае складаньне ды друкаваньне лепшым тэхнічным спосабам трэба прывітаць.

У надрукаваным каляндары зьмешчана багата патрэбных кожнаму праваслаўнаму беларусу вестак, як пасхаліі, даты дванаццатных і вялікіх сьвятаў, поўны штодзённы каляндар, імёны сьвятых, паказ кіраўніцтва й парахвіяў БАПЦ ды артыкул празь беларускую праваслаўную дзейнасьць пад Польшчай паміж 1-й і 2-й сьветнімі войнамі.

У ім таксама ёсьць кароткі малітоўнік із штодзённымі малітвамі пабеларуску.

Як і ў зборніку Б. Данілюка, таксама і ў каляндары зьвяртае на сябе ўвагу чыстая беларуская мова ды, разам, і спробы заступіць царкоўна-славянскія тэрміны беларускімі, да якіх дадзены слоўнічак.

Хочацца пажадаць, каб запрапанаваныя тэрміны прыйняліся ды іхная колькасьць памножылася ў наступных выданьнях каляндара ды іншых публікацыях БАПЦ.

Яшчэ варта пажадаць, каб у каляндары пабольшала колькасьць бачынаў, лік друкаваных на іх вестак і тэмаў артыкулаў, ды ўзбагацела ягонае графічнае апрацаваньне.

Гэта, аднак, залежыць нятолькі ад рэдакцыі каляндара, але й ад грашовага падтрыманьне выдавецкае дзейнасьці БАПЦ верніцкай грамадою БАПЦ і беларускім грамадзтвам наагул.

**ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 10-Й Г. РАНІЦЫ.**

**СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ ЗАКАЗАНА ЙНАКШ, УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ.**

**ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ МОЖНА ПАЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, АБО ПАДАЦЬ УСПОМНЫЯ ЛІСТКІ ЗА СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ, ЦІ ЗА ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ.**

**АДРЫС: 401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217-1702**
**TEL.: (1 718) 875-0595, TEL./FAX: (1 732) 868-1589**

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Із шчырай зычлівасьцяй вітаем Вас, нашыя Дарагія Дабрадзеі й Чытачы з асабліва ўрачыстым, бо 2-х тысячным угодкавым Сьвятам слаўнага Хрыстовага Нараджэньня.

Упрашаем народжанага ў Бэтлеэме нашага Збаўца Ісуса Хрыста й жадаем Вам радасна адзначыць гэты Сьвяты Дзень, ды з надзеяй на Божае прыяньне ў Вашым жыцьці сустрэць Новы Год.

Упрашаем Яго яшчэ, каб Ён узгрэў Вашыя сэрцы ахвотай на шчодрае падтрыманьне працы на дабро Сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, безь якое ня можа быць незалежнай нашая Бацькаўшчына.

У гэтай дагоднай Богу й карыснай Беларускаму Народу працы найважнейшае мейсца займае пашырэньне словам і друкам Хрыстовае Навукі й Праўды праз дадзеную нам Богам годнасьць ды права на йз усімі зладнае самастойнае прыватнае й дзяржаўнае жыцьцё.

Пашырэньню Божае Навукі й Праўды, як Іх весьціць Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, якраз і служыць цяпер наш адзіны праваслаўны часапіс аўтакефальнага кірунку.

Ён адзіны, розны ад шчодра фінансаванага зза мяжы бянтэжнага іншавернага выдавецкага гармідару, што аглушае наш народ на Бацькаўшчыне, сьціплы, нажаль, голас абароны Веры нашых дзядоў і бацькоў, ды закліку да вернасьці гэтай духовай крыніцы моцы нашае даўняе дзяржаўнасьці.

Сёлета на нашыя сьціплыя рэдакцыйныя й грашовыя магчымасьці лягла адказнасьць яшчэ й за выданьне, як ува ўсіх іншых цэрквах, настольнага каляндара, зь якою мы справіліся, хоць давялося зьменшыць колькасьць нумароў часапісу.

З увагі на гэтую дадатковую адказнасьць мы пастанавілі ўлучыць у нашую дзейнасьць, апрача часапісу, і выдаваньне патрэбных праваслаўным беларусам кніжак.

Ці справімся з гэтай новай і яшчэ большай адказнасьцяй будзе залежаць у вялікай меры ад Вас, Дарагія Дабрадзеі й Чытачы, бо мы, як працавалі, будзем імкнуцца працаваць і далей.

Надзею, але ня пэўнасьць, на гэта даюць нам ахвяры ад ніжэй пададзеных Дабрадзеяў, якім мы глыбака ўдзячныя й за якіх шчыра молімся.

Парахвія Сьв. Ап. Пятра й Паўла ў Кілкэны, Аўстралія - 53.80 д.; А. Балотнік - 5.00 д.; М. Белемук - 5.00 д.; Д. Бобка - 15.00 д.; Ю. Васілеўскі - 25.00 д.; Б. Данілюк - 50.00 д.; Р. Данілюк - 100.00 д., М. Грэбень - 50.00 д.; Мітр. Ізяслаў - 50.00 д.; А. Карповіч - 15.00 д.; В. Лосік - 20.00 д.; Ж. Навумчык - 10.00 д.; Г. Нікалаенка - 15.00 д.; В. Чарняк - 40.00 д.

Няхай-жа зь іхнае шчодрасьці возьмуць прыклад усе чытачы "Царкоўнага Пасланца", што дагэтуль не падтрымалі яго грашовымі ахвярамі, ды няхай Бог узнагародзіць іх за ахвяры, што яны дадуць.

Рэдакцыя Выдавецтва БАПЦ
"Царкоўны Пасланец"